Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г.Мінск, вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 9 лютага 1999 г. | № 14 (545) | Кошт свабодны

## Пажар у цэнтры сталіцы

### *Ледзь не згарэў «бессмяротны» дом*

У мінулую нядзелю на плошчы Перамогі ў Мінску адбыўся буйны пажар. Гарэў паддашак аднаго з жылых дамоў. Мінчане добра ведаюць гэты будынак — на ім звычайна гарыць надпіс «Бессмертен», частка ананімнага выказвання «Подвиг народа бессмертен». Выява гэтага дома таксама ёсць на 500-рублёвым банкноце.

Як паведамілі нам у цэнтры супрацьпажарнай прапаганды сталіцы, сігнал аб загаранні паступіў у дзяжурную частку ў 17:15. У барацьбе з агнём было задзейнічана 50 пажарных. Гарэла больш чым 500 квадратных метраў даху. Стварылася небяспека для жыхароў дома — дах мог абрушыцца. Таму каля 40 чалавек, што жывуць на 4 і 5 паверхах гэтага будынка, былі эвакуіраваныя. На працягу паўгадзіны полымя залівалася моцнымі патокамі вады, таму вада пашкодзіла некаторыя кватэры на 4 і 5 паверхах. Падчас ліквідацыі пажару ніхто не пацярпеў.

Прычына пажару пакуль невядомая, але пажарныя мяркуюць, што хутчэй за ўсё нехта пранік у паддашак і там неасцярожна абышоўся з адкрытым агнём.

**Міхась КАРПОВІЧ**

### *Коратка*

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў беларускай (ФПБ) патрабуе ад уладаў перагледзець дэкрэт прэзідэнта ад 26 студзеня 1999 года аб дзяржаўнай рэгістрацыі і перарэгістрацыі палітычных партыяў, прафсаюзаў і грамадскіх арганізацыяў.

У першым паўгоддзі 1999 года фонд дзяржмаёмасці Украіны завершыць разгляд усіх маёмасных прэтэнзіяў беларускага боку. Усяго Беларусь прад'яўляе прэтэнзіі на 35 аб'ектаў на Украіне.

Паводле статыстыкі, за апошняе дзесяцігоддзе ў Беларусі памерла прыкладна 1.200 тысяч і нарадзілася каля 1.060 тысяч чалавек. У гэты ж час у краіну іміграваў прыкладна 687 тысяч чалавек, а 680 тысяч з'ехала ў эміграцыю.

Сакратарыят цэнтральнага камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі прыняў рашэнне, што гэтая арганізацыя не будзе прымаць удзел у маючых адбыцца 4 красавіка выбарах у мясцовыя саветы дэпутатаў.

Да дзесяцігоддзя вываду савецкіх войскаў з Афганістана ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» выйшла «Рэспубліканская кніга Памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў». У кнізе пералічаны імёны грамадзянаў Беларусі, што загінулі ў войнах і ўзброеных канфліктах на тэрыторыі 15 краінаў свету. Толькі дзесяцігадовая вайна ў Афганістане забрала жыцці 723 нашых суайчыннікаў.



# Расійскія фашысты на плошчы Перамогі

**Руская фашысты (РНЕ) адзначылі крывёю свой інтэграцыйны марш на Беларусь. МУС і КДБ рэспублікі заплюшчылі вочы на фашысцкія пагулянкі. Міліцэйскія дубінкі, што бязлітасна гулялі па рэбрах дэманстрантаў, паблажліва хаваюцца перад уладальнікамі павязак са свастыкай.**



Расійскія фашысты з РНЕ (здымак з газеты «Известия»)

У мінулую пятніцу каля 9 гадзінаў вечара ў раёне плошчы Перамогі ў Мінску два дзесяткі хлопцаў з фашысцкай арганізацыі РНЕ («Русское национальное единство») напалі на прадстаўнікоў грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97» і моцна збілі іх. Андрэю Саннікаву зламалі нос і рабро, цялесныя пашкоджанні атрымалі Зміцер Бандарэнка і Алег Бябенін.

Як паведаміў нам Андрэй Саннікаў, у той вечар даволі шмат РНЕшнікаў сабралася на праспекце Ф.Скарыны — яны стаялі групамі па двое-тры чалавекі на адрэзку ад плошчы Перамогі да вуліцы Варвашэні і раздавалі прахожым фашысцкую літаратуру. Усе былі апранутыя амаль аднолькава: чорныя боты, камуфляжныя ці чорныя штаны і курткі, чорныя берэты і сімволіка РНЕ — чырвоная стылізаваная свастыка — на грудзях або на берэце. Паводзілі яны сябе вельмі агрэсіўна.



Пацярпелыя ад фашыстаў Андрэй Саннікаў і Алег Бябенін

Актывісты «Хартыі'97» адмовіліся ўзяць улёткі са свастыкай і зрабілі заўвагу фашыстам, пасля чаго іх пачалі біць. Адразу ж да месца канфлікту падцягнуліся астатнія РНЕшнікі — па сведчанні А.Саннікава, іх было не менш за дваццаць. Сілы былі няроўныя, і прадстаўнікі «Хартыі» моцна пацярпелі. *«Мяне білі нагамі, калі я ўжо ляжаў на зямлі»*, — прыгадвае Андрэй Саннікаў. Вакол месца бойкі сталі збірацца людзі, але на дапамогу хартыйцам прыйшоў толькі адзін невядомы вайсковы афіцэр — і ён таксама быў моцна збіты.

Па словах сведкаў, нацысты дзейнічалі арганізавана і, відаць, былі абсалютна ўпэўненыя ў сваёй беспакаранасці. Збіццё працягвалася прыкладна 10 хвілінаў, і за ўвесь гэты час на месца здарэння не з'явіўся ніводзін міліцыянт, хоць побач знаходзіцца станцыя метро, якую ахоўвае сталы міліцэйскі пост. Відаць, ахоўнікі парадку атрымалі ўказанне не чапаць фашыстаў, якія на працягу мінулага тыдня свабодна вялі сваю агітацыю ў многіх месцах горада. Па словах сведкаў, адзін з нападаючых фашыстаў адкрыта хваліўся тым, што РНЕ ў Беларусі аказваюць падтрымку на самым высокім узроўні.

Ніводзін міліцыянт не звярнуў увагі на бойку. *«Звычайна на гэтым месцы з ранку да вечара дзяжурыць патрульная машына ДАІ, але тады яе чамусьці не было»*, — заўважае Зміцер Бандарэнка. А быў намеснік міністра замежных справаў Андрэй Саннікаў, як чалавек дасведчаны, увогуле выключае магчымасць, каб на праспекце Скарыны нешта адбывалася не пад кантролем улады. Невядома, як бы ўсё скончылася, калі б не дапамога сябраў Народнага Фронту — на шчасце, штаб-кватэра БНФ знаходзіцца непадалёк ад месца здарэння.

З прадстаўнікамі міліцыі Саннікаву давялося сустрэцца толькі ў шпіталі. Пазней яму паведамілі, што Партызанскі РАУС узбудзіў крымінальную справу па факце хуліганства. Відаць, улады не бачаць у РНЕ асаблівай небяспекі нашаму грамадству. Чаго патрабаваць ад міліцыянтаў, калі генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка на прэс-канферэнцыі 8 лютага заявіў: *«Дагэтуль мы не атрымалі заяваў, што з боку РНЕ дапушчаецца парушэнне грамадскага парадку ці іншыя дзеянні, якія б супярэчылі закону. Калі такія сігналы з'явяцца, мы правядзем адпаведную праверку і дадзім ім ацэнку»*.

Мінскае аддзяленне адыёзнай партыі Баркашова ўпершыню прымусіла загаварыць пра сябе гады тры-чатыры назад. Яго ўзначаліў нехта Андрэй Валуйлін, які ў 1994 г. быў адным з актыўных членаў выбарчага штаба Аляксандра Лукашэнкі. Аснову мясцовай філіі РНЕ склалі колішнія члены радыкальнага крыла партыі «Славянскі сабор Белая Русь». Пазней баркашоўская пярвічка ўзнікла таксама і ў Віцебску.

Нейкі час нацысты сябе асабліва не рэкламавалі, так бы мовіць, збіралі сілы. Па некаторых звестках, на базе адной з мінскіх вайсковых частак быў арганізаваны трэніровачны лагер, дзе баркашоўскія «соратники» вучыліся прыёмам рукапашнага бою, праходзілі фізічную і агнявую падрыхтоўку пад кіраўніцтвам прафесійных вайсковых інструктараў. Нагадаем, што ў Беларусі з яе ўсемагутным апаратам спецслужбаў дзейнасць такой арганізацыі, як РНЕ, без санкцыі ўладаў была б наўрад ці магчымай.

Прыкладна паўгода таму мінскія баркашоўцы сталі дзейнічаць больш актыўна. Актывісты РНЕ адчуваюць сябе ў Мінску нават больш вальготна, чым у Маскве. Фашысты даўно распаўсюджваюць сваю літаратуру ў мінскіх ПТВ, на вакзалах, на Камароўскім рынку. Не так даўно яны прайшліся з прапагандысцкім рэйдам па дзяржаўным Доме друку. Яны адкрыта збіраюцца па панядзелках на сталічнай плошчы Я.Коласа. А на сценах многіх мінскіх дамоў з'явіліся ўлёткі са свастыкай і заклікамі *«навесці ў краіне рускі парадак»*. І вось расійская карычневая чума вылезла на праспект Скарыны. Значыць, месца на Камароўцы ўжо не хапае?

Апошні ўсплёск актыўнасці РНЕ ў Мінску многія назіральнікі напрамую звязваюць з нядаўнім маршам баркашоўцаў у Маскве. Не выключана, што правакацыі мінскіх фашыстаў былі інспіраваныя эмісарамі з Расіі. Так, некаторыя сведкі збіцця Андрэя Саннікава сцвярджаюць, што падлеткамі-фашыстамі кіраваў дарослы чалавек, які гаварыў з характэрным маскоўскім вымаўленнем.

Гэты інцыдэнт пакідае шмат пытанняў, адказ на якія хацелася б атрымаць ад уладаў. Чаму фашысты так вальготна адчуваюць сябе ў Мінску? Чаму ніхто не перашкаджае ім адкрыта распаўсюджваць літаратуру, якая распальвае міжнацыянальную варожасць? Каму на карысць, што праблема неафашызму ў беларускім грамадстве замоўчваецца ўжо не першы год?

*«Фашысты не проста раздавалі свае ўлёткі, яны мелі на мэце ўчыніць гучную акцыю, і яны свайго дамагліся»*, — сцвярджае Алег Бябенін. На ягоную думку, малойчыкі з РНЕ выбралі месца акцыі знарок — побач з метро «Плошча Перамогі» можна пастаянна сустрэць сяброў БНФ, інтэлігентаў, проста людзей, якія паміж сабой размаўляюць па-беларуску. *«Фашысты спецыяльна правакавалі грамадскасць, трымаючы ў бліжэйшых дзяннях рэзерв на выпадак бойкі. Тактыка знаёмая па дзеяннях АМОНа. РНЕ ёсць у каго павучыцца»*, — заўважае Зміцер Бандарэнка.

*(Працяг на стар. 2)*

### *Папраўка*

У нумары 13 ад 5.02.1999 г. у інфармацыі «Даже ЛДПР против» мы зрабілі прыкрую памылку. На Беларусі ёсць толькі партыя ЛДПБ. Таму трэба чытаць «Даже ЛДПБ против» Рэдакцыя прыносіць свае прабачэнні кіраўніцтву ЛДПБ. Адзінае, чым можам патлумачыць недарэчнасць памылкі, што газета выйшла ў пятніцу і мела нумар 13.

# Ачольнік Саюза пісьменнікаў пакрыўдзіўся

Газета «Літаратура і Мастацтва» (№ 6 за 5 лютага 1999 г.) надрукавала Заяву Рады беларускіх пісьменнікаў. Да тэксту Заявы дададзены ў два разы большы па памеры постскрыптум ад імя Уладзіміра Някляева. (Чамусьці, праўда, не пазначана, у якой якасці выступае пад гэтым **P. S.** сп. Някляеў. Калі б мы не ведалі пра яго пасаду, дык, відаць, задаліся пытаннем пра этычнасць прыватных подпісаў пад постскрыптумам да Заявы Рады СБП.) Дадатак, як не дзіўна, цалкам прысвечаны пераліку прэтэнзіяў да НАВІНаў за публікацыю Заявы на тыдзень раней, чым гэта зрабіў «ЛіМ» (№ 10 ад 29 студзеня). Ул. Някляеў дакарае НАВІНЫ, што газета надрукавала Заяву з «нечых слоў», без дасланага сакратарыятам СБП тэксту, не адказала адрасу на афіцыйны запрос пра падставовы дакумент публікацыі, а таксама ў сувязі з папярэднім — за непрафесіяналізм і парушэнні журналісцкай этыкі.

Таму мусім растлумачыць, што ў размове з намеснікам Ул. Някляева было паведамлена, што тэкст Заявы прынеслі ў рэдакцыю НАВІНаў члены Рады СБП, якія прымалі ўдзел у галасаванні, і таму рэдакцыя друкавала Заяву з ліста, а не «з нейчага голасу». Члены Рады нічога не казалі пра тое, што Заява набывае сілу толькі пасля таго, як нехта з сакратароў СБП дасць дазвол на яе прадстаўленне чытачам. Мы ўпэўнены, што СБП пакуль што застаецца грамадскай арганізацыяй і прымае свае Заявы дзеля таго, каб іх чыталі. А хуткая публікацыя гэта і ёсць найлепшая этыка і прафесіяналізм. Таму цяжка зразумець сэнс постскрыптума, якім аздоблена Заява. Што тычыцца недакладнасцяў, то гэта так, як кажуць, святая праўда. У цытаваных Заявай радках з Янкі Купалы з нашай віны прапушчаны тры словы: «поўная», «праўдзівую свабоду». Таму перадрукоўваем апошні абзац Заявы без пропускаў:

«Як сказаў яшчэ 80 гадоў таму Янка Купала: "Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу"».

Рэдакцыя

# Расійскія фашысты на плошчы Перамогі

*(Пачатак на стар. 1)*

Не будзе перабольшаннем сказаць, што здарэнне, якое адбылося ў мінулую пятніцу ў Мінску, атрымала вялікі рэзананс. Аб разгуле фашыстаў на вуліцах горада-героя Мінска паведаміла расійскае тэлебачанне, асабліву ўвагу надалі гэтай навіне міжнародныя інфармацыйныя агенцтвы. Свет яшчэ раз пераканаўся, што беларускі рэжым і фашызм — з'явы блізкія. Беларускае ж тэлебачанне ў гэты раз, як і заўсёды ў падобных выпадках, адмоўчвалася, але гэта нікога не здзівіла: «Воран ворану вока не выдзяўбе».

Як паведамілі НАВІНАМ у «Хартыі'97», актывісты гэтай арганізацыі не збіраюцца абмяжоўвацца асуджэннем дзеяння ў фашыстаў. Хартыйцы ўжо звярнуліся да дэмакратычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і прафсаюзаў краіны з заклікам ствараць дружыны самаабароны, якія дадуць адпор злачынцам з фашысцкай сімволікай. «Хартыя'97» плануе правесці напрыканцы лютага шырокую антыфашысцкую акцыю з удзелам прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў Беларусі, а таксама суседніх краінаў.

Пасля вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у 1944 годзе нашае грамадства жыло ва ўпэўненасці, што больш ніколі ніводзін фашыст не асмеліцца з'явіцца на беларускай зямлі. Аднак з'явіліся, гэтым разам — з Усходу. Фашысты «Русского национального единства» са свастыкамі на нарукаўных павязках пралілі кроў беларускіх грамадзянаў у цэнтры Мінска і абвясцілі гэтым пра свой прыход у Беларусь. Невыпадкова фашысцкая брыдота выступіла на плошчы Перамогі, дзе гарыць Вечны Агонь памяці па ахвярах вайны з фашызмам.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Справы пішуцца

**У мінулым годзе ў нашай краіне засталіся нераскрытымі 144 забойствы. Аб гэтым паведаміў журналістам генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка. Ён таксама паінфармаваў прадстаўнікоў СМІ аб тым, у якім стане знаходзяцца справы вядомых у Беларусі вязняў.**

Хваліцца пракуратуры, аказваецца, і тут няма чым. Паводле Алега Бажэлкі, расследаванне справы дэпутата ВС 13-га склікання Андрэя Клімава працягнутае да ліпеня 1999 года. Прычына — неабходнасць правесці «будаўнічую экспертызу» дома, які ўзводзіўся фірмай Клімава. Адзначым, што праз два дні спаўняецца роўна год, як дэпутат быў арыштаваны і пасаджаны ў следчы ізалятар. За гэты час не тое што экспертызу будынка правесці — цэлы хмарачос пабудаваць можна.

Гісторыя з арыштам былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, мяркуючы па інфармацыі Алега Бажэлкі, таксама не асабліва рухаецца наперад. Пачынаючы з лістапада Лявонаў знаёміцца з матэрыяламі сваёй справы. З больш чым трыццаці тамоў ён прачытаў дваццаць.

Затое было сказана некалькі словаў пра хваробу былога галоўнага банкіра краіны Тамары Віннікавай. Дрэнным станам яе здароўя Бажэлка патлумачыў той факт, што справа Т.Віннікавай ужо амаль год стаіць на месцы.

Агульныя словы пачулі журналісты ад генеральнага пракурора і адносна справаў аб невяртанні крэдытаў у розных банках. Бажэлка паведаміў толькі, што ў пракуратуры створаны спецыяльны аддзел, які вядзе найбольш гучныя з такіх справаў. У прыватнасці, расследуюцца факты невяртання крэдытаў у Аграпрамбанк, Ашчадны банк. Але вынікаў, аб якіх ужо варта паведаміць, пакуль няма.

Апроч змагання з забойцамі, рабаўнікамі і злодзеямі-банкірамі, пракуратура будзе сачыць за захаваннем законнасці з боку палітыкаў, папярэдзіў Алег Бажэлка. *«Гэта тычыцца дэпутатаў так званага Вярхоўнага Савета, якія прызначылі на травень прэзідэнцкія выбары. Дзеянні гэтых парушальнікаў Канстытуцыі 1996 года будуць адсочвацца. Пры з'яўленні фактаў будуць заводзіцца адміністратыўныя і нават крымінальныя справы»,* — з металам у голасе сказаў генеральны пракурор.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Кожныя 4 хвіліны – злачынства

**Паводле інфармацыі міністэрства статыстыкі і аналізу краіны, у 1998 годзе на Беларусі зарэгістравана 122.858 злачынстваў, што на 4,3% менш за паказчык 1997 года.**

Колькасць зарэгістраваных крадзяжоў склала 54.005 (у параўнанні з 1997 г. на 13% менш), рабаўніцтваў — 5.056 (зніжэнне на 13%), разбояў — 1.492 (зніжэнне на 8%), наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў — 2.075 (рост на 5,3%), наўмысных забойстваў і замахаў на забойства — 1.228 (рост на 2,85). У параўнанні з 1990 годам агульная колькасць зарэгістраваных у рэспубліцы злачынстваў вырасла на 62 працэнты, у тым ліку разбояў — на 145%, наўмысных забойстваў і замахаў на забойства — на 101%, наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў — на 64%, рабаўніцтваў — на 61%, крадзяжоў — на 42 працэнты. Разлікі паказалі, што ў 1998 годзе на Беларусі сярэднестатыстычны інтэрвал паміж злачынствамі склаў 4 хвіліны 17 секундаў (у 1990 годзе — 6 хвілінаў 57 секундаў).

*БелаПАН*

**Шаноўныя чытачы!**
**Газета НАВІНЫ чакае сваіх прыхільнікаў на старонцы Інтэрнэт!**
**http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svoboda/**

*ДАГЕРРОТИП*

# Смысл внутрипольских переговоров

**Семен БУКЧИН**

Не успели в Польше отшуметь с конца минувшего года шахтерские забастовки, как навалились новые «страйки» – медиков. В минувшую пятницу в больницах и поликлиниках прошла двухчасовая всеобщая предупредительная забастовка. На медицинские «события» в последние дни наложились волнения в крестьянской среде. «Рольники» с помощью своих автомобилей, сельскохозяйственной техники и досок с гвоздями блокируют дороги. Полиция по указанию воевод расчищает их. На первый, малоосведомленный взгляд, действительно, «балаган».

Но информационные выпуски всех каналов телевидения начинаются с одного сюжета под названием «Переговоры». Идут переговоры Конфедерации работодателей, членов правительства с профсоюзными лидерами. Переговоры, в которых обе стороны полны чувства собственного достоинства. Когда министр здравоохранения Войцех Максимович говорит о сложностях реформы в сфере медицины, о том, что подобная реформа, связанная с переходом на систему больничных касс, продолжалась в ФРГ 12 лет, а в Польше она только началась и потому проблемы неизбежны, с ним трудно не согласиться. Но с каким же достоинством ему отвечает немолодая пани председательница профсоюза медсестер: «Мы в последний раз протягиваем руку правительству, которое прекрасно знает, что жить на зарплату в 600 злотых невозможно». И внимательно слушает пожилую медсестру. А та требует ни мало ни много повышения зарплаты в три раза. Возможно ли, чтобы сегодня белорусская медсестра требовала у правительства зарплату в 500 с лишним долларов?

Требовать, впрочем, могут многие, скажет иной читатель. Важно, чего добьются. Не волнуйтесь за поляков, дорогой читатель. Они своего умеют добиваться. Прежде всего потому, что организованы. Но это не означает, что и правительство полностью отступит. Министр финансов Лешек Бальцерович подобен гранитной скале: бюджет сверстан, лишних денег нет, а печатать пустые бумажки – это не в стиле «отца» польского экономического чуда. 7,5% — такова установленная норма отчислений из подоходного налога в пользу больничных касс. Медики требуют ее повышения до 11%.

Где же выход? Представьте себе, что он находится. На днях здешние банки существенно снизили процентные ставки, что говорит об укреплении национальной валюты – злотого. Это позволит с меньшим напряжением возвращать внешний финансовый долг. А сэкономленные средства – миллионы злотых – и пойдут на повышение зарплат медикам.

Получат финансовую поддержку и крестьяне. Хотя здесь проблема сложнее. Уж больно дорого обходится производство польского мяса и молока. А все потому, что устаревшие технологии, что там, где должны быть заняты десятки, трудятся тысячи людей. И каждому нужно заплатить, что не может не отражаться на цене продукта. Вышедший на дороги польский крестьянин требует, чтобы правительство покупало у него мясо по цене выше той, что действует сегодня. Иначе он попросту разоряется.

Но правительство здесь заняло жесткую позицию. Те, кто нарушает закон, блокирует дороги, будут привлекаться к судебной ответственности. Из-за блокировки на дорогах Польши оказались в тяжелом положении сотни «тиров». Фирмы несут убытки и предъявляют счета польскому правительству. А последнее намерено возвратить выплаченные суммы через судебные иски к нарушителям закона и прежде всего к «Самообороне» Анджея Леппера – партийного функционера времен ПНР, а ныне горячего «защитника крестьянских интересов».

Невероятно труден он, этот внутрипольский диалог. Шахтеры, анестезиологи, медсестры, а теперь и врачи практически всех специальностей, крестьяне... У всех свои резоны, свои требования. Но как раз этот диалог и свидетельствует о том, что Польша уже вышла на добрую экономическую и общественную дорогу, хотя на ней еще немало заторов.

Страну-«балаган» ни в НАТО, ни в Европейский Союз принимать не станут. А в марте Беларусь уже будет иметь в качестве ближайшего западного соседа члена НАТО... А там и Европейский Союз придвинется к нашей границе. Западный «рай» станет еще ближе. Можно только посочувствовать нашей официальной пропаганде...

*Варшава*

*НАША ВЁСКА*



ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Февраль – начало весны

На прошлой неделе на телезрителей российских каналов обрушился вал информации из Беларуси. Вначале на массовую акцию протеста рабочих в Минске вышло около 10 тысяч человек. Впервые за последние годы произошла столь крупная акция протеста, организованная профсоюзами. На экранах телевизоров появились колонны рабочих с синими профсоюзными флагами, ораторы из рабочей среды и обыкновенные пожилые женщины, кричавшие «Батьку – в отставку!» Лозунг этот хорошо и отчетливо был услышан миллионами телезрителей и привел в замешательство белорусские власти.

## Герои наступившего дня

Два дня спустя состоялся Конгресс демократических сил, работа которого также была отражена на всех российских телевизионных каналах. Теперь главной новостью из Беларуси стало то, что оппозиция объединяется. И несмотря на то, что пятитысячная манифестация в поддержку Конгресса была обойдена вниманием российских каналов, у телезрителей возникло впечатление, что не все так спокойно в Беларуси, что есть там силы, способные консолидироваться и вывести людей на улицу.

Но еще важнее – впечатления самих участников демонстрации рабочих, делегатов Конгресса и манифестантов в его поддержку. Когда находишься в их гуще, лучше понимаешь их настроения.

Один рабочий, распространявший листовки среди своих товарищей, твердил как заклинание: «Никого и ничего не бойтесь!» Было видно, что этими словами он избавляется и от собственного страха, сидевшего где-то глубоко внутри. Небывалая личная активность проявилась у демонстрантов. Они подходили к организаторам и просили листовки, чтобы по ходу движения колонны раздавать прохожим либо разбросать у себя дома по почтовым ящикам. Напором и уверенностью рабочих заражались прохожие. Они с благодарностью брали листовки. Листовки брали водители машин, которые ждали, пока пройдет колонна, брали солдатики из зарешеченных окон военного госпиталя, брали офицеры и милиционеры. Не брали листовок только крепкие молодые ребята в кожаных куртках, старавшиеся слиться с колонной и убежать от насмешек, раскрывавших их принадлежность к «органам».

Съезды, конференции, конгрессы – привычные для нашего человека явления. Еще с коммунистических времен мы относимся к ним как к формальным, показушным мероприятиям, на которых должно быть продемонстрировано единство народа и партии, народа и правителя. Конгресс демократических сил, который прошел в Минске, – событие другого ряда. Собрались люди, которые, во-первых, противостоят власти и, во-вторых, демонстрируют солидарность друг с другом.

## Свежий ветер

Конечно, у всех оппозиционных лидеров свое видение ситуации, каждый из них, по словам кинорежиссера Юрия Хащеватского, «держится за ту или иную часть слона, называемого независимой порядочной Беларусью». Сегодня все они готовы забыть о мелких разногласиях и объединиться ради главной цели – избавления Беларуси от диктатуры.

В зале Конгресса были активисты разных партий и общественных организаций, борющиеся за достойную судьбу Беларуси, депутаты демократических фракций из парламентов стран-соседей. Почитаемые народные поэты Нил Гилевич, Геннадь Буравкин, Артур Вольский блеснули своими речами и задали высокий моральный тон для всех остальных. Гость из Госдумы России Аркадий Янковский сказал, что у них таких собраний уже нет, а что касается Думы, то подобных откровений там не встретишь.

Кульминацией событий стала прошедшая демонстрация в поддержку Конгресса. В ней участвовало много совершенно новых людей, не ходивших ранее на митинги. Она прошла в 15-градусный мороз. Еще утром у организаторов манифестации были сомнения – придут ли люди в такую погоду, соберется ли хотя бы тысяча участников. Пришло в несколько раз больше – отчаянных, пробудившихся, решившихся на смелый поступок людей. Сама жизнь вывела их на площадь Якуба Коласа, откуда был дан старт демонстрации. Кто пришел с требованием достойной зарплаты и пенсии, кто – с тревогой за судьбу родной страны, кто – с лозунгом за отставку президента.




Впереди колонны под напором ветра реял совершенно новый транспарант «Конгресс Демократических Сил». На одежде демонстрантов были видны значки с такой же символикой. В голове колонны активисты Хартии'97 несли огромное полотнище «Аннексии - нет!» Новые лозунги сочетались с новым наступательным, оптимистическим настроением демонстрантов. У многих, несмотря на пронизывающий ветер и мороз, было весеннее настроение.

## Без права на ошибку

Впечатления последних массовых акций наводят на некоторые серьезные размышления. Первое то, что сегодняшняя жизнь многих людей, как говорится, «достала». Постоянно пульсирующая в голове мысль, как сэкономить денег, как накормить детей, вдруг вырвалась наружу в поисках причин политического характера. Хозяйки перестают сетовать на собственную расточительность, видя, как пустеет их потребительская корзинка. Бедные женщины уже не винят себя, а пытаются найти истинных виновников обнищания. Во-вторых, многие начинают воспринимать иную, обратную официальной, точку зрения на проблемы страны и каждой семьи. Происходит смыкание догадок, нечаянных прозрений простых покупательниц и убеждений, целенаправленных идей оппозиционной прессы и агитаторов. Пустой желудок оказывается активнейшим катализатором мыслительной деятельности. Нужна только новая пища для ума, верное слово и поддержка отчаявшимся людям.

Огромную работу по просвещению и просветлению людей проделали народофронтовцы, ходившие десятилетие на митинги и демонстрации, отпахавшие добрый кусок целины «нацыянальнай свядомасці», ветераны оппозиционного движения, стойкие борцы за идею. Их целеустремленность и подвижничество достойны уважения и восхищения. Они подошли к идее независимой Беларуси, к идее белорусского дома, крепкого, обустроенного, живого со своей стороны, со своими методами. Но необходимо учитывать и тех, кто не настолько хорошо говорит по-белорусски, кто не настолько хорошо знает историю Беларуси, кто не настолько национально просвещен, как народофронтовцы. Как их привлечь к ценностям белорусской идеи, приобщить к строительству родного белорусского дома?

Веского слова сегодня ждут от рабочих. Их требования достойной оплаты труда сегодня являются политическими. Нынешнему режиму удержать экономику на плаву не удастся. Попытка совместных действий лидеров различных профсоюзов вывела на улицы десять тысяч рабочих, которых поддержали забастовкой десятки тысяч предпринимателей по всей стране. Такие массовые солидарные выступления в самом начале года испугали белорусские власти. Объявленная республиканским стачкомом на начало апреля всеобщая забастовка может стать нокаутирующим ударом для режима. Хочется надеяться, что у лидеров рабочего движения хватит ума объединиться и довести дело до конца.

И, конечно, стремительный рывок в своей деятельности должна совершить политическая оппозиция. Лишенная радио и телевидения, массовых газет, она, тем не менее, может донести свое слово до тех, кто страдает и мучается, пытаясь найти выход. Сделать это можно не только через независимую прессу. Люди хотят видеть лидеров живьем, слышать их речь, задавать вопросы напрямую. Более того, сама ситуация толкает оппозиционных политиков на личное общение во время митингов, собраний и пикетов. Да, некоторым лидерам сложно выйти на уличный пикет. Но скажите, где можно встретиться с сотнями людей, увидеть их глаза, их реакцию, разделить их горести и заботы. Успех январских акций во многом связан с подготовительной работой, которая была проведена различными политическими партиями и профсоюзами на более чем ста пикетах.

Сегодня нам всем нелегко. Экономические трудности, политическая нестабильность, возможность полной потери суверенитета не оставляют времени для «раскачки». Ситуация очень жестко контролирует действия оппозиционных лидеров, их готовность консолидироваться и совместно работать. Еще более жестко их оценивают простые люди, которые недоедают, болеют и из последних сил ищут выхода из тупика. Мы обязаны оправдать их доверие.

**Людмила ГРЯЗНОВА,**
*член оргкомитета Хартии 97*

САЦАБАРОНА

# Бочка, што не мае дна

**Міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель распавяла на сваёй прэс-канферэнцыі 2 лютага пра тое, што ў чацвёртым квартале мінулага года ўзровень жыцця большасці пенсіянераў апусціўся ніжэй рысы беднасці.**

Спадарыня Даргель лічыць, што ўсё ішло добра да жніўня: рэальна пенсіі ў РБ нават абганялі ў росце заработную плату. Але затым расійскі крызіс каменя на камені не пакінуў ад такога дабрабыту. Канешне, меркаванне слушнае, але ж занадта банальнае. У нас цяпер кожны, хто выходзіць на публіку, спасылаецца на маскоўскі дэфолт.

А дзе ж мы самі? Які ў нас саміх абставіны? Па-першае, самі працаўнікі сацыяльнай абароны, а гэта 5 тысяч «апаратчыкаў» і 25 тысяч практыкаў, якія аказваюць дапамогу хворым і састарэлым, традыцыйна маюць ніжэйшы за ўсіх у краіне заробак.

А ўсе астатнія? Што такое, напрыклад, наш мінімальны спажывецкі бюджэт і 60% ад яго памеру, дзе, на думку ўладаў, і пралягае рыса беднасці? Гэта тая рыса, за якой чалавек ужо і жыць не можа, бо за ёй пачынаецца фізічны голад. І не хлебам жа адным павінен жыць пенсіянер, хоць многія з іх ужо апусцілі рукі і сабраліся паміраць, пакідаючы свае праблемы больш маладым.



Што з гэтай нагоды рабіць? Перш-наперш, не дазваляць вадзіць сябе за нос, не верыць байкам пра гэтыя сацыяльныя нарматывы, якія на самой справе нічога не забяспечваюць. Як сведчаць дадзеныя міністэрства статыстыкі, сем'і з адных пенсіянераў выдаткоўваюць на харчаванне як мінімум 3/4 сямейнага бюджэту, і на ўсё астатняе амаль нічога не застаецца. У астатнім свеце, не ў Беларусі, падыходы да сацыяльных нормаў іншыя. Напрыклад, у ЗША за рысай беднасці лічацца тыя сем'і, у якіх на нармальнае, падкрэслім, харчаванне выдаткоўваецца больш за адну трэцюю частку сваіх даходаў. Адчуваеце розніцу?

Скажуць, каб жыць як у Амерыцы, трэба і працаваць, як у Амерыцы. Цалкам згодны. Але ж улады нашыя павінны ствараць для гэтага ўмовы, як гэта робіцца ў Польшчы ці Балтыі. Вось на гэты конт канкрэтныя доказы. У 1990 годзе рэальная зарплата ў Беларусі была крыху большая, чым у Польшчы. Напрыклад, для таго, каб купіць кілаграм курацыны, сярэдні беларус у 1990 годзе павінен быў працаваць 3 гадзіны 15 хвілін, паляк — 3 гадзіны 20 хвілін. У мінулым годзе такая пакупка каштавала ў Беларусі 6,5 гадзін працы, у Польшчы — 0,5. Такая ж прыкладна сітуацыя і па іншых таварах і паслугах: кошт польскай рабочай хвіліны ў 10–13 разоў вышэй за кошт беларускай; мы вярнуліся прыкладна на 30 гадоў назад, а палякі ўпэўнена крочаць у Еўропу і ў III тысячагоддзе.

А калі ў нас такія малыя заробкі, дык адкуль узяцца вялікім пенсіям? І без таго ў фонд сацыяльнай абароны, з якога выплачваюцца пенсіі, бальнічныя лісткі, дапамога на дзяцей і фінансуецца аздараўленне непрацаздольнага насельніцтва, адлічваецца 35% фонду заработнай платы і 1% з заработнай платы работніка. Куды ўжо больш?

Да таго ж гэты фонд, як і ўсе астатнія, вельмі падобны на дзіравую бочку. Колькі вады не налівай, ніколі не напоўніцца, колькі грошай не давай — скарбніца пустая. Бо пакуль прадпрыемствы выплацяць зарплату, пакуль пералічаць грошы, інфляцыя іх проста з'есць. Напрыклад, ужо за тры тыдні студзеня, задоўга да выплат зарплаты за першы месяц года, грошы, па афіцыйных дадзеных, падзешавелі на 17,4 працэнта. А ўвогуле, па афіцыйных і вельмі аптымістычных прагнозах, інфляцыя ў бягучым годзе складзе 200 працэнтаў.

Такая інфляцыя не дазваляе рабіць ашчаджэнні ні насельніцтву, ні прадпрыемствам, ні фондам. Калі ж зарплаты і пенсіі індэксаваць у поўным памеры, на месца інфляцыі заступіць гіперінфляцыя і беларуския грошы канчаткова ператворацца ў нікому не патрэбныя каляровыя паперкі. І калі зараз не адрамантаваць гэтую бочку, усё, што звязана з грашыма, згубіць для нас усялякі сэнс. У тым ліку і пенсійнае забяспячэнне і аплата працы.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

